# КРЫВІНКА

ТРАВЕНЬ
№ 7 (197)
2017 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



НАША ЖЫЦЦЁ

## ЧАРГОВЫ ЖЫЦЦЁВЫ ЭТАП ЛЕАНІДА ПЯНЬКОЎСКАГА

**12-га мая Аляксандр Лукашэнка разгледзеў кадравыя пытанні. Сярод іншых прызначэнняў было прызначэнне старшыні Бешанковіцкага райвыканкама Леаніда Пянькоўскага старшынём Аршанскага райвыканкама.**

Пра тое, што Леанід Пянькоўскі знаходзіцца на добрым рахунку ў кіраўніка краіны, сведчаць шматлікія факты. Сярод іх і той, што ў 2012 годзе ён быў уганараваны званнем "Чалавек года". А ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 25 сакавіка 2016 года за шматгадовую плённую працу, узорнае выкананнеслужбовыхабавязкаўЛеаніду Пянькоўскаму прысвоена ганаровае званне «Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь».

Пра станоўчыя адносіны да яго А. Лукашэнкі гаворыць і тое, што ў чэрвені мінулагагодаЛ.Пянькоўскамуякдэлегату прадстаўлені слова на V Усебеларускім народным сходзе, дзе Пянькоўскі між іншым сказаў: «За апошнія 5 гадоў пры падтрымцы дзяржавы і прыцягненні уласных сродкаў у сельскагаспадарчую вытворчасць Бешанковіцкага раёна інвесціравана 441 мільярд рублёў.

Пабудавана і рэканструявана 30 малочнатаварных ферм, у тым ліку 7 — з даільнымі заламі, 1 комплекс па вырошчванні цялушак на 1200 галоў, пабудаваныя сучасныя інкубаторый і птушнікі па вырошчванні куранят-бройлераў. На 60% пераабсталяваны машынна-трактарны парк, набытыя стацыянарныя і перасоўныя зернесушыльныя комплексы.

Гэта дало магчымасць забяспечыць прыроствытворчасцівалавойпрадукцыі сельскай гаспадаркі амаль у 6 разоў, у тым ліку вытворчасць збожжа — у 1,9 разы, малака — у 1,3 разы, пагалоўе буйной рагатай жывёлы павялічылася на 40%, птушкі — у 3 разы.»

Бешанковіцкі раён традыцыйна меў нядрэнныя вынікі ў жывёлагадоўлі. За 9 апошніх гадоў не ў апошнюю чаргу намаганнямі кіраўніка раёна яны значна выраслі. За 2016 год у сярэднім на карову ў Бешанковіцкім раёне надаілі 5 401 кг малака. Гэта другі паказнік у вобласці.

Іншыпаказнік,якіммогпахваліццараён у 2015-м годзе, была ўраджайнасць зерневых культур, якая склала больш за 40 цэнтнераў з гектара, а валавы збор дасягнуў амаль 70 тыся тон.

Але якую выгаду ад гэтага мае просты жыхар Бешанковіцкага раёна? Па велічыні заробкаў раён займае перадапошняе месца ў рэспубліцы. І тое – галоўны мінус у ацэнцы Л.Пянькоўскага як кіраўніка, якую яму выстаўляюць людзі. Хоць перашкодай у пераадоленні чарговай ступенькі кар'ернай лесвіцы, як бачым, у Беларусі гэта не з'яўляецца.

Пры Л.Пянькоўскім у раёне пачалася чарада імклівага закрыццяў школаў. За 9 гадоў, якія Л.Пянькоўскі кіраваў раёнам, у шматлікіх вёсках у Бешанковіцкім раёне так і не было створана ніводнага прадпрыемства, якое б дазволіла маленькім рэгёнам узняцца на ногі. Як вынік – у раёне катастрафічна зменшылася і працягвае змяншацца насельніцтва. Калі па перапісу 2009 года, у пачатку кар'еры Пянькоўскага, у раёне пражывала 18 516 чалавек, то на пачатак мінулага года - толькі 15 914 чалавек.

Са здаровым ладам жыцця і са спортам у раёне таксама існуюць праблемы. Зразумела, што пасада патрабавала, каб Леанід Канстанцінавіч цікавіўся спартовымі справамі, і спорт неяк у раёне фінансаваўся. Але асабіста ў спартовым жыцці раёна кіраўнік не ўдзельнічаў, а таму нейкага асаблівага імпульсу ні футбол, ні хакей у раёне не атрымалі.

Тое, што ў нашым раёне не на належным узроўні знаходзіцца культурная спадчына, таксама не сакрэт. Большасць аб'ектаў, якія ўваходзяць у Спіс помнікаў культуры і павінны ахоўвацца дзяржавай, у раёне занядбаныя. Тое можна сказаць пра Двор Нізгалаўскі панскі дом і парк, пра парк «Саломінка» у Дабрыгорах, пра шматлікія курганы і могільнікі на тэрыторыі раёна. Некаторыя з іх нават раскопваліся для падсыпкі дарог.

Не ўпрыгожвае паслуговы спіс былога ўжо старшыні райвыканкама і бешанковіцкі басейн, будаўніцтва якога было распачата ўвосень 2013 года і праз год спыненае.

Адным словам, дасягненні Бешанковіцкага раёна пачынаюцца і заканчваюцца лічбамі ў справаздачах, і не маюць аніякага дачынення да жыцця шараговых бешанкоўцаў.

**А.Тутэйшы**

### ****

*Калі боль у грудзях*
*пачынае*
*гастролі раптоўныя*
*і вандроўкаю гэтай*
*свядомасць*
*крыху перапуджвае,*
*мая памяць паціху*
*імёнаў рады выбрукоўвае*
*і з рачулкі ўспамінаў*
*падзеі і факты вывуджвае.*

*Хоць здаецца,*
*што цьмянеюць*
*нашы ўспаміны з гадамі ўсе,*
*адлятаюць да зор*
*ці ў вірах тонуць*
*кволымі трэскамі,*
*ды складаюцца пазлы,*
*якія даўно не складаліся,*
*і размовы вядуцца*
*з маімі сябрамі ўваскрэслымі.*

*І тады адпаўзаюць*
*нясцерпнага болю вужакі ўсе,*
*я раблю першы крок*
*і здзіўляюся сонцу вясноваму,*
*і расплюшчваю вочы –*
*на свет гэты з*
*ноў нараджаюся,*
*і жыццё крочыць побач*
*з усмешкай нязнанаю,*
*новаю.*

***Г.Станкевіч***



З СУДОВАЙ ЗАЛІ

## МАХІНАЦЫІ Ў КРАМЕ «НА МАЛАДЗЁЖНАЙ»

**11 красавіка 2017 уступіў у законную сілу прысуд суда Бешанковіцкага раёна ад 20-га студзеня 2017 у дачыненні да асуджаных работнікаў Бешанковіцкага райпо: Яцук, Акуневіч, Галай, Шлык і Дабравольскай.**

На працягу доўгага час праводзіліся праверкі, вырашалася пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы, амаль 6 месяцаў цягнулася следства па справе, скрупулёзна і старанна расследваліся падзеі, якія сталі фатальнымі для абвінавачаных.

Матэрыяльна адказныя асобы не задумваліся аб тым, што ўсё таемнае становіцца відавочным, што сваімі дзеяннямі яны ганьбяць сябе, свае сем'і і што за зробленае іх чакае суровая расплата.

У судовым пасяджэнні было ўстаноўлена, што, што ў перыяд з 11.11.2013 па 09.02.2016 Яцук, з'яўлялася прадаўцом з выкананнем абавязкаў загадчыцы міні-крамай «На Маладзёжнай» Бешанковіцкага райпо.

У названы перыяд пастаянна ў брыгадзе працавалі: Галай і Акуневіч. У перыяд з 06.11.2013 па 03.11.2014 ў брыгадзе працавала Дабравольская, а ў перыяд з 23.03.2015 па 10.11.2015 - Шлык. Працавалі па зменах, тавар атрымлівалі і прадавалі ўсё, выкладка тавару ў краме была закрытай, на зале былі толькі два халадзільнікі з півам і рыбай. Улік пратэрмінаванага або сапсаванага тавару не вялі, ён альбо выкідвалася, альбо прадаўцы яго забіралі сабе. Разам з тым і Яцук, і ўсе прадаўцы бралі тавар з крамы сабе без аплаты, вялі ўлік даўгоў ў сшытку, маючы намер вярнуць доўг у наступным.

Рэвізіі ў краме праходзілі 3 ці 4 разы ў год. Калі будзе праходзіць рэвізія, ведалі. Да рэвізіі заўсёды брыгада рыхтавалася: рабілі перападлік рэштказ тавараў самі напярэдадні рэвізіі. Кожны раз выяўлялася нястача, якую спрабавалі схаваць шляхам завозу тавараў з іншых крамаў. Калегі не адмаўлялі ў гэтым. Тавар пасля рэвізіі вяртаўся ў крамы.

Браўся тавар на рэалізацыю ў знаёмага прадпрымальніка, разлік з якім рабіўся пасля рэвізіі з касы крамы.

Прадаўцы частку нястачы гасілі грашыма, а пасля рэвізіі забіралі гэтыя грошы, каб вярнуць даўгі, а калі бралі крэдыт, то грошы заставаліся ў касе. Толькі ў жніўні 2015 года рэвізія выявіла нястачу ў суме 19 мільёнаў рублёў, якую пагасілі разам. Нястача расла з кожнай рэвізіяй.

Якустаноўленаўсудовымпасяджэнні, такая сітуацыя склалася з прыходам у брыгаду Дабравольскай. Пры ёй сталі браць тавар без аплаты, у ходзе 2-х рэвізій, нястачу схавалі. Пры сыходзе Дабравольскай яе доўг краме склаў 20 мільёнаў рублёў. Ён не быў вернуты. Агульны доўг Дабравольскай, з улікам кошту тавару, які ёй быў дадзены перад рэвізіяй у краму «Прадукты», каб перакрыць нястачу, склаў 25 млн. рублёў. Тавар далі на перыяд рэвізіі, але аказалася, што ў яе была перадача крамы, і тавар пасля перадачы застаўся ў краме «Прадукты», а грошы Дабравольская вяртаць адмовілася.

Калі ў брыгаду прыйшла Шлык, доўг прадаўцоў складаў ужо 75 млн. рублёў і ва ўсіх ён быў прыкладна аднолькавы. Шлык прыйшла ў брыгаду і адразу была дасведчаная аб наяўнай сітуацыі, «умовы гульні» прыняла. Пры сыходзе з брыгады, яе доўг складаў 35 млн. рублёў. Абяцала вярнуць грошы потым, але пазыка вернута не была.

Нястачу ў 300 млн. рублёў (без уліку дэнамінацыі) схаваць было немагчыма і таму вырашылі паставіць у вядомасць пра гэта праўленне райпо. Была праведзена ў краме рэвізія без прыняцця мер па ўтойванні нястачы, і яна паказала 300 мільёнаў рублёў. У гэтую суму ўваходзілі даўгі прадаўцоў, а таксама доўг насельніцтва 20 млн. рублёў. Прадаўцы адпускалі тавары насельніцтву ў доўг, сумы фіксаваліся ў сшыткі.

Тавар давалі ў доўг, і гэта не з'яўлялася таямніцай і, у выпадку безграшоўя, народ ішоў у гэтую краму. Даўгі, як правіла, вярталіся, але вось 20 мільёнаў завісла. Уражвае сума доўгу аднаго з пакупнікоў у 7 млн. рублёў, якая не была вернута і ў ходзе разгляду крымінальнай справы ў судзе. Тавар у доўг давалі без разбору ўсім, хто звяртаўся, нават мала знаёмым людзям. Бралі з касы грошы на свае патрэбы, без ведама членаў брыгады, тавар бралі сабе без ўзважвання, не надавалася належнай увагі рэалізацыі скорапсавальных прадуктаў.

Абвінавачаныя вінаватасць у здзяйсненні злачынстваў прызналі часткова, шмат у чым вінавацілі наймальніка, але іх віна ў судзе была даказаная ў поўным аб'ёме прад'яўленага абвінавачання і ўсе яны панеслі пакаранне з улікам адсутнасці абцяжваючых і наяўнасці змякчальных адказнасць абставінаў.

Яцук, Акуневіч (Галын), Галай Е.Н., Шлык А.В., здзейсненыя цяжкія

***(працяг на стар. 2)***

З СУДОВАЙ ЗАЛІ

***(пачатак на стар. №1)***
злачынствы, Дабравольскай Т.В. цяжкае і менш цяжкае злачынства. Усе абвінавачаныя прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці ўпершыню. Абцяжваючых іх адказнасць абставін не маецца. Змякчальнымі адказнасць абставінамі Яцук., Акуневіч, Галай, Шлык прызнана актыўнае спрыянне выяўленню злачынства, выкрыццю іншых удзельнікаў злачынства; прыняцце мер усіх абвінавачаных па кампенсацыі нанесенай злачынствам шкоды; Яцук, Акуневіч (Галыня), Шлык, Дабравольскай – наяўнасць на ўтрыманні непаўналетніх дзяцей.

Яцук ў адпаведнасці з ч.4 арт. 211 КК асуджаная на 5 гадоў пазбаўлення волі, Акуневіч і Галай да 3 гадоў 6 месяцаў пазбаўлення волі, Шлык ў адпаведнасці сч.3 арт. 211 КК да 2 гады 6 месяцаў пазбаўлення волі, Дабравольская ў адпаведнасці з ч.3 арт. 211, ч. 2 арт. 211 КК да 3 гадоў пазбаўленняволізадбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму. У дачыненні да ўсіх асуджаных применена канфіскацыя маёмасці і пазбаўленне права займаць пасады, звязаныя з прыёмам, захоўваннем, улікам і адпачынкам матэрыяльных каштоўнасцяў тэрмінам на 5 гадоў.

Пракурорам раёна ў інтарэсах Бешанковіцкага райпо прад'яўлены пазоў аб спагнанні ўрону, прычыненага злачынствам, які будзе разгледжаны ў судом у грамадзянскім судаводстве.

Пастка зачыніліся і ў асуджаных будзе час падумаць, ці каштавала гульня, якую яны задумалі, свеч. Будуць сталець без маці дзеці, пакутаваць бацькі,самі выйдуць на свабоду і доўгі час будуць абавязаны ў салідарным парадку вяртаць доўг Бешанковіцкаму райпо. Хочацца верыць, што з сітуацыі, якая склалася зробяць выснову усе работнікі гандлю Бешанковіцкага раёна, а Бешанковіцкага райпо будуць прыняты меры па папярэджанні прысвяення і растраты прадаўцамі даручанай ім маёмасці.

**Намеснік пракурора Бешанковіцкага раёна малодшы саветнік юстыцыі Э.І.Ляшанок**

СІМВАЛЫ

# СІМВАЛАМ РАЁНА ВЫБРАЛІ ЧУБАТУЮ СІНІЦУ

**Райвыканкам і райсавет дэпутатаў падтрымалі ініцыятыву мясцовых актывістаў і грамадскага аб'яднання «Ахова птушак Бацькаўшчыны» па вызначэнні птушкі - прыроднага сімвала раёна.**

- У выніку лідэрам стала чубатая сініца, якая жыве ў рэгіёне на працягу ўсяго года. Як афіцыйны сімвал Бешанковіцкага раёна яна будзе зацверджана на сесіі раённага Савета дэпутатаў у канцы красавіка, - паведаміла педагог экалагічнага аддзела Бешанковіцкага раённага цэнтра дзяцей і моладзі Святлана Дзядкова.

Выбар птушкі раёна - досыць распаўсюджаная практыка ў свеце, але пакуль новая для Беларусі. Пакрокавую інструкцыю аб правядзенні такога конкурсу распрацавала грамадскае аб'яднанне «Ахова птушак Бацькаўшчыны».

- Першым рэгіёнам, які абраў сваю птушку-сімвал - зімародка, быў Валожын Мінскай вобласці. Мёры абралі для сябе шэрага жураўля, ў Слуцку на Міншчыне - салаўя, - распавяла Святлана Андрэеўна.

Прыродны сімвал раёна можа выкарыстоўвацца для развіцця экатурызму. Яго малюнак будуць змяшчаць на інфармацыйнай прадукцыі, сувенірах і г.д. Акрамя таго, гэта садзейнічае экалагічнаму выхаванню насельніцтва, прыцягвае ўвагу да біялагічнай разнастайнасці роднага краю.

**Віцебскія весці**

НАША ЖЫЦЦЁ

# 7 ФАКТАЎ АБ САМЫМ БЕДНЫМ РАЁНЕ БЕЛАРУСІ

**У сакавіку сярэдні заробак у Бешанковіцкім раёне, які знаходзіцца ў цэнтры Віцебскай вобласці, склала 483 рубля або 255 даляраў. Горш справы па гэтым паказчыку толькі ў Шаркаўшчынскім.**

«Салідарнасць» вывучыла сітуацыю ў Бешанковіцкім раёне.

1.Каб зарабіць, мясцовыя жыхары будуць збіраць слімакоў

Па афіцыйных дадзеных ўзровень рэгіструемага беспрацоўя адносна невялікі, хай і вырас за апошні час да 0,9%. Аднак па ўскосных прыкметах можна судзіць, што рэальнае беспрацоўе прыкметна вышэй.

У сакавіку гэтага года ў раёне сярод іншых былі наступныя вакансіі: электрыка з заробкам у 250 рублёў, метадыстаў у цэнтры культуры з заробкам у 240, прадаўцоў з заробкам у 350, паведамлялі beshankovichy.by.

Нядзіўна, што ў пачатку года ў раёне з натхненнем успрынялі першы тэндэр на набыццё вінаградных слімакоў. За права закупляць малюска ў мясцовых жыхароў змагаліся тры ўдзельнікі. Першы намеснік старшыні райвыканкама Сяргей Акуневіч сказаў тэлеканалу СТВ: «Гэта і занятасць насельніцтва, і лішні заробак, і лішняя капейка».

2.У раёне ўсяго два адносна буйных прамысловых прадпрыемствы

Гарадскі пасёлак Бешанковічы прамысловасцю пахваліцца не можа. Тут усяго два асноўных прадпрыемствы: ТАА "Белкатламаш«, які вырабляе кацельнае абсталяванне, і «Бешанковіцкі камунальнік», які вырабляе цеплаэнергію.

На іншых дробных прадпрыемствах задзейнічана максімум па некалькі дзясяткаў чалавек. Большасць жыхароў раёна працуе ў калгасах.

3.Бюджэт раёна напалову датуецца

Агульная сума даходаў мясцовага бюджэту на 2017 год прагназуецца ў аб'ёме 10,1 млн руб. А з улікам бязвыплатных паступленняў з рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў даходы складуць 20,2 млн рублёў, пісала мясцовая газета "Зара».

4.Насельніцтва прыкметна скарачаецца

Лічбытакія:павынікахперапісу 1999 года ў Бешанковіцкім раёне пражывала 23 674 чалавека, па перапісу 2009-га - ужо 18 516 чалавек. А на пачатак мінулага года - усяго 15 914 чалавек.

Па афіцыйных дадзеных з 2010 па 2015 гг. была закрыта 6 ўстаноў адукацыі, яшчэ 10 - рээрганізавана. Мабыць, гаворка ідзе ў асноўным аб школах.

5.На прэзідэнцкіх выбарах раён прадэманстраваў фантастычную яўку

У 2015 годзе моцна пастаралася мясцовая вертыкаль.ЯўкаўБешанковіцкім раёне склала 99,2%. Нібыта тут не прагаласавала ўсяго 99 выбаршчыкаў.

6.У раёне знаходзіцца адна з самых інтэрнэт-актыўных вёсак Беларусі

Згодна з свежым рэйтынгу мабільнага аператара velcom - гэта вёска Стрыжава. Тут на абанента прыходзіцца 13 Гбайт.

7.Адкрываецца новае прадпрыемства

Ледзь не адзіны прамень святла ў раёне за апошнія гады - адкрыццё новага прадпрыемства, на якім будуць выпускаць медпрэпараты для анкахворых.

У канцы мінулага года ў Бешанковічах быў створаны НПЦ «Націвіта», а ў гэтым годзе павінна быць запушчана паўнавартаснае вытворчасць з удзелам славацкага, індыйскага, беларускага і літоўскага капіталаў.

... У цэлым можна сказаць, што Бешанковіцкаму раёну шмат у чым гістарычна не пашанцавала. У тым ліку ў тым, што тут не нарадзіўся кіраўнік дзяржавы.

**gazetaby.com**

КРЫМІНАЛ

# СПЕЦЫЯЛЬНАЕ КОМПЛЕКСНАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА «АРСЕНАЛ»

**8 грамадзян Бешанковіцкага раёна прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за правапарушэнні, звязаныя з абаротам зброі.**

У рамках правядзення спецыяльнага комплекснага мерапрыемства "Арсенал", накіраванага на выяўленне, спыненне і прафілактыку правапарушэнняў, звязаных з незаконнымі дзеяннямі ў дачыненні да зброі, боепрыпасаў, выбуховых прылад і выбуховых рэчываў, 8 грамадзян нашага раёна прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за правапарушэнні, звязаныя з абаротам зброі . Канфіскавана 8адзінакзарэгістраванайзброі і 71 боепрыпас. Добраахвотна здадзена грамадзянамі 9 адзінак незарэгістраванай зброі і 175 боепрыпасаў.

Нагадваем, што за незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў прадугледжана крымінальная адказнасць. Згодна з арт. 295 КК Рэспублікі Беларусь максімальнае пакаранне можа быць да 12 гадоў пазбаўлення волі.

Пра жаданне добраахвотна здаць зброю а таксама аб фактах незаконнага яго захоўвання (як і боепрыпасаў, выбуховых прылад выбуховых рэчываў) вы можаце паведаміць у Бешанковіцкі РАУС па тэлефонах: 4-10-02 або 102, а таксама 597-59-88 або 4-87 -38.

**Іван Арлоў наменік начальніка РАУС "Зара"**

СУПРАЦЬПАЖАРНАЯ БЯСПЕКА

# АНАЛІЗ ПРЫЧЫН ПАЖАРАЎ У РАЁНЕ

**Прычыны пажараў у Бешанковіцкім раёне: курэнне, п'янства і парушэнне правілаў эксплуатацыі электраабсталявання**

За бягучы перыяд 2017 гады на тэрыторыі Бешанковіцкага раёна адбылося 4 пажары, на адным з пажараў загінуў чалавек.

13-га лютага бягучага года а восьмай гадзіне вечара ў пажарную частку паступіла паведамленне аб пажары ў вёсцы Хоціна Ульскага сельскага Савета. Пасля прыбыцця да месца выкліку назіралася адкрытае гарэнне хлява. У выніку пажару ў будынку знішчаны дах, перакрыцце столі, часткова пашкоджаны сцены. Пацярпелых няма. Прычына пажару - кароткае замыканне, парушэнне правілаў эксплуатацыі электраабсталявання.

12-га красавіка ў сярэдзіне дня паступіла паведамленне аб пажары хлява ў в. Ганкавічы Верхнекрывінскага сельскага Савета. У выніку пажару ў хляве пашкоджаны дах, пашкоджаныя перакрыцці столі, часткова пашкоджаныя сцены. Пацярпелых няма. Прычына пажару - неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

23-га красавіка а чацвёртай гадзіне ночы паступіла паведамленне аб пажары дома ў в. Вядзерава Астровенскага сельскага Савета. У выніку пажару ў доме пашкоджаны дах, перакрыцце столі, сцяна. Пацярпелых няма. Прычына пажару - кароткае замыканне, парушэнне правілаў эксплуатацыі электраабсталявання.

24 красавіка ў 18-33 ў Бешанковіцкі РАНС паступіла паведамленне аб пажары жылога дома ў в. Маскалёнкі Верхнекрывінскага сельскага Савета. У выніку пажару ў доме знішчаны дах, маёмасць, пашкоджаны перакрыцце столі, сцены. Да прыбыцця падраздзяленняў МНС чалавек, які паведаміў аб пажары, выцягнуў загінулага гаспадара з дому. Прычына пажару - неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні ў стане алкагольнага ап'янення.

Бешанковіцкі раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях неаднаразова нагадвае: курэнне ў ложку з'яўляецца прычынай узнікнення пажараў і гібелі на іх людзей.

Таксама выконвайце правілы пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі электраабсталявання!

**beshenkovichi.vitebsk-region.gov.by**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***
- ***Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

НАША ГІСТОРЫЯ

# САМАЗАБОЙЧЫ РЭФЕРЭНДУМ 1995-ГА

**Здавалася б, ну чаго з гэтым сцягам і мовай насіцца? Значна больш важныя пытанні дэмакратыі, паўнамоцтваў прэзідэнта ды парламенту... Але з часам апынулася, што і мова, і сімволіка — гэта не толькі трызненні рамантыкаў-«адраджэнцаў», але яшчэ і пытанне нацыянальнай бяспекі.**

Першы, але не апошні за гады праўлення сённяшняга кіраўніка Беларусі, рэферэндум адбыўся 14 мая 1995 года. Першы і... лёсавызначальны. Тактычна кіраўнік Беларусі тады перамог, стратэгічна — прайграў

Як мы памятаем, падчас рэферэндуму на галасаванне былі вынесены чатыры пытанні: аб замене нацыянальнай сімволікі, аб наданні рускай мове роўнага статусу з беларускай, аб інтэграцыі з Расіяй ды аб наданні прэзідэнту права роспуску парламента.

Ці былі вынікі галасавання аб'ектыўнымі? Спрэчкі ідуць дагэтуль. Пра працэнты, парушэнні, само права на рэферэндум з юрыдычнага боку. Пытанне ў іншым: ці магчыма наогул выносіць на галасаванне (ставіць пад сумнеў) прынцыпы, якія дазваляюць народу звацца народам і ў далейшым самастойна вызначаць свой лёс?

Адсоўванне нацыянальнай сімволікі ды мовы з дзяржаўнага ўзроўню стала для Беларусі самазабойчымі крокамі. Герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг на доўгія гады апынуліся па-за законам — за іх выкарыстанне тысячы людзей трапілі пад рэпрэсіі, гістарычныя сімвалы сталі фактычна забароненымі. Родная мова апынулася дэ-юрэ «роўнай» з расійскай, але дэ-факта — выкінутай з ужытку, нацыя анямела.

Здавалася б, ну чаго з гэтым сцягам і мовай насіцца? Значна больш важныя пытанні дэмакратыі, паўнамоцтваў прэзідэнта ды парламенту... Але з часам апынулася, што і мова, і сімволіка — гэта не толькі трызненні рамантыкаў-«адраджэнцаў», але яшчэ і пытанне нацыянальнай бяспекі. Маеш мову і гісторыю, пазначаную сімваламі, — значыць, маеш права на незалежную дзяржаву. Карыстаешся чужой мовай і бутафорыяй замест гісторыі — чакай гасцей. Прыклад Украіны, дзе пад удар Расіі трапілі акурат русіфікаваныя дэнацыяналізаваныя рэгіёны, — выдатнае таму сведчанне.

Пасля падзеяў у Крыме і ў Данбасе падалося, што дзяржава пачала разумець: перагнулі з чысткай усяго беларускага, трэба назад адкручваць. Але як адкруціш, калі дзеці з рускамоўных школаў не тое што размаўляюць — разумеюць па-беларуску з цяжкасцю? Як адкруціш, калі для тысяч сілавікоў, выгадаваных пры Лукашэнку, нацыянальныя сімвалы сталі аб'ектам нянавісці на падсвядомым узроўні?

Па вялікім рахунку, рэферэндум не проста ўзаконіў новыя герб са сцягам ды рускую мову, ён даў дабро на вынішчэнне ўсяго нацыянальнага пад корань. Нацыяналізм стае галоўным ворагам кіраўніка і ўсёй ягонай вертыкалі. Але і тут захаваная міна запаволенага дзеяння: дэмакратаў перамагчы можна, асабліва калі дзейнічае сацыяльная дамова — улада ўзамен на стабільнасць. Якія там справядлівыя выбары, калі ў лядоўні поўна? Ці багата хто захоча сядзець у засценках за абстрактныя «правы чалавека» ці абяцанні рэформаў?

З нацыяналістамі — складаней. Якія б добрыя дарогі ні будаваліся, як бы ні раслі заробкі ў «хлебныя» гады, ім усё адно няймецца: «Беларусь мае быць беларускай!» І нічога тут не паробіш. Зміцер Дашкевіч некалі казаў, што прыйшоў у пратэстны рух менавіта праз змену нацыянальнай сімволікі ў 1995-м. Маладога яшчэ будучага палітыка, палітвязня і «вулічнага байца» абурыла падмена натуральных рэчаў, якія ёсць у кожнай дзяржаве, на бутафорыю. А калі ў чалавека забіраюць нешта натуральнае, як паветра, — выбару няма: трэба ісці да апошняй мяжы...

Міраслаў Лазоўскі, адзін з ключавых фігурантаў «Справы патрыётаў», неадноічы казаў: «Мне няма розніцы да прозвішча прэзідэнта, галоўнае — незалежнасць». Упэўнены, што такой пазіцыі трымаецца абсалютная большасць хлопцаў, якім зараз шыюць 287-ы артыкул. Натуральная рэч — незалежнасць. Тыя, хто без грошай і спадзеваў на высокія пасады будзе яе бараніць, — залаты фонд нацыі: не здрадзяць, не разбягуцца, не здадуць. А лежыць: «нацыяналіст» для ўладаў па-ранейшаму вораг. А як інакш? Прагаласаваў жа народ яшчэ ў 1995-м...

Вядома, той рэферэндум быў зроблены як пад замову Расіі, так і пад замову сацыяльную: Лукашэнка адчуў народ з ягонай настальгіяй па СССР і бязмежнай любоўю да «старэйшага брата». Адчуў — і сыграў. Але ведаць псіхалогію «простага чалавека» — гэта яшчэ далёка не ўсё ў палітыцы. Трэба трохі далей глядзець, на крок наперад.

І тут Лукашэнка прайграў — выкінуў адразу ўсе карты. Можна ж было і гайкі зацiскаць, і з Расіяй фліртаваць, але пры гэтым умацоўваць нацыянальны складнік, нават з прагматычных пазіцыяў, каб больш упэўнена пачувацца сябе ў гульні. Урэшце, ёсць прыклад Казахстану, дзе кіраўнік і Пуціну руку ціснe, і мову з кірыліцы на лацінку пераводзіць, нібы кажучы: «Мы — іншыя. Тут не «русский мир».

Тактычна Лукашэнка ў 1995-м перамог, стратэгічна — прайграў. Але ці ён адзін? Прайграла ўся Беларусь разам з мёртвымі, жывымі і ненароджанымі — уся нацыя ў перспектыве прасторы і часу. Вяртацца на нацыянальныя пазіцыі для Лукашэнкі зараз — нібы здрадзіць самому сабе, пакінуць усё, як ёсць, — згубіць краіну. Цяжкі выбар, дылема. Але ці бывае па-іншаму ў складаныя часы?

**Алесь Кіркевіч**
**"Новы Час"**




НАША ЎЛАДА

# КАК ВЫГЛЯДИТ НАСТОЯЩЕЕ «СТЫДОБИЩЕ» ЛУКАШЕНКО

**Зацепило! Почему «стыдобище» в спорте главу государства интересует больше, чем «стыдобище» в экономике? Как ни тужились идеологи создать 9 мая что-то «прекрасное» по всем канонам официоза, Александра Лукашенко больше волновали 5-я колонна, деревня и хоккей.**

Пока натренированные гимнасты в гимнастерках упражнялись в стойке «делай раз, делай два», главнокомандующий и его свита тоже пытались сымитировать что-то победоносное. Так сказать, под стать торжеству момента.

Только вот получилось не очень. Бравурные песни и пляски так и не смогли зажечь огня в душе главного потребителя этой праздничной феерии. Он был грустен и безучастен.

Что хотели услышать от Лукашенко белорусы? По крайней мере те, кто еще рассчитывает на какие-то слова. Наверняка, думали, что руководитель выйдет к народу, подбодрит и заверит, что главные победы у нас еще впереди и мы обязательно по примеру наших славных предков преодолеем все свалившиеся на нас (не будем уточнять благодаря кому) беды.

А что услышали? В своей торжественной речи Лукашенко рассказал про врагов, которые окопались вокруг наших границ, про 5-ю колонну, которая лелеет свои коварные планы, и про земной шар в огне. А после торжественной речи и вовсе удивил всех.

Выяснилось, что главу государства больше интересует, «как можно было пропустить с „пятака“ третью шайбу от финнов», нежели проблемы, с которыми столкнулась наша страна. Упадок в экономике, нищета, отсутствие нормальной работы и перспектив... Нет, все это не нашло отражения в речах руководителя. Он прямо дал понять, что «стыдобище» в спорте его волнует значительно больше, чем стыдобище в экономике. Глава государства готов был взахлеб рассказывать, как надо пасовать и пробивать, и абсолютно не парился по поводу собственных побед. Вернее, их отсутствия.

Интересы белорусов и Лукашенко в этот день (да и не только в этот) явно разошлись. Пока одни думали, как найти работу в городе, где единственное предприятие ввиду бездумной государственной политики стало банкротом, другой придумывал новый способ, где еще закопать деньги, решив пустить их на умирающие деревни.

Пока одни ужасались собственным бедственным положением, другой рассказывал о тяжелых буднях мигрантов в Европе.

Слушая речи президента, глядя в его усталые, без малейшей надежды и интереса глаза, думаю, многие в этот момент думали про «стыдобище». Только не про то, о котором вещал Лукашенко.

Потому что «стыдобище» — это не когда ты не забиваешь в ворота противника, а когда более 20 лет топчешься на одном месте, называя это «особенным курсом».

«Стыдобище» — это не когда ты пасуешь не туда, а когда экономика твоей страны пасует, потому что не может существовать без субсидий соседнего государства, а иного способа управления ты не знаешь.

«Стыдобище» — это не когда ты теряешь шайбу, а когда ты теряешь людей, которые уезжают из страны в поисках нормальной жизни, потому что тут у них забрали не только возможность заработать, но и надежду на лучшее будущее.

Все это и есть настоящее стыдобище. Только вот стыдно ли его главному организатору?

**Светлана Метёлкина**
**http://gazetaby.com**

ДЗЕНЬ ЕЎРОПЫ

# ПРАЕЎРАПЕЙСКУЮ МОЛАДЗЬ САБРАЎ ДЗЕНЬ ЕЎРОПЫ

**Лекцыі экспертаў, віктарына пра ЕЗ і кінапрагляд — Рух «За Свабоду» зладзіў трэці Дзень Еўропы у Мінску.**

Адкрыў Дзень Еўропы эканаміст Сяргей Чалы лекцыяй «Ці можа Беларусь стаць „Кіпрам“». У ёй ён разабраўся, на якім месцы знаходзіцца беларуская эканоміка ў Еўропе, і якія нашыя перспектывы.

«Пры ўсіх размовах пра крызіс толькі дзве краіны не „растуць“ у нашым рэгіёне — Беларусь і Расія. Нашая эканоміка ўсё больш набывае рысы нафтавай эканомікі. Строга кажучы, так яно і ёсць. Праўда, мы здабываем нафту не ў зямлі, а ў Расіі», — адзначыў Чалы.

Ён чакае, што добрых перспектываў у беларускай эканомікі пакуль не шмат: «перад тым як будзе лепей, будзе горш».

«Беларусь патрэбная Расіі больш, чым Расія патрэбная Беларусі. Яны нам плацяць засталося давядецца, за што. А плацяць яны за вельмі дарагі тавар — анестэзію фантомных імперскіх боляў», — адзначыў эканаміст.

Удзельнікі разам з кінакрытыкам Максімам Жбанковым паглядзелі і абмеркавалі фільм «Бразілія» Тэры Гільяма. А кіраўнік Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, сябра Рады Руху «За Свабоду» Антон Астаповіч распавёў пра «Еўрапейскі кантэкст беларускай культуры».

«Трэба памятаць пра вялікі ўплыў рускай культуры і помніць пра польскі, але ніколі нельга закулявацца ў нейкі адзін бок. Мы этнас, культура, якая сфармавалася на зломе двух цывілізацыяў, і мы павінны захаваць сваю інтэнтычнасць. Калі будзем хіліцца ў адзін ці другі бок, то ёсць пагроза яе страты», — падкрэсліў Астаповіч.

«Дзень Еўропы — дата, якая звязаная з абвяшчэннем аб'яднання еўрапейскіх краінаў. Рух „За Свабоду“ ладзіць свята як дзень міра, еднасці Еўропы», — адзначыў адзін з арганізатараў свята, намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Кірыл Стасельва.

Па ягоных словах, Дзень Еўропы дапамагае зразумець беларусам, што яны з'яўляюцца еўрапейцамі — не менш, чым

*(працяг на стар. 4)*

ДЗЕНЬ ЕЎРОПЫ

*(пачатак на стар. №3)*

жыхары краінаў, якія ўваходзяць у Еўрапейскі звяз.

«Еўрапейскасць фармуецца не толькі прыналежнасцю да ЕЗ, колькі адпаведнай ідэнтычнасцю, успрыняццём саміх сябе і навакольнай рэчаіснасці», — падкрэліў Стаселька.

Ён пазітыўна ацаніў само мерапрыемства, кажа, што атрымалася стварыць цёплую цікавую атмасферу.

«Дзень Еўропы — важнае мерапрыемства, бо мы еўрапейцы, культурна, па ўзроўні адукацыі», — адзначыла адна з арганізатараў, сябра Рады Моладзі Руху «За Свабоду» Вікторыя Таболіч.

Вікторыя асабліва адзначыла кінапрагляд, адзначыўшы, што фільм «Бразілія» прымусіў задумацца, і да яго яны з сябрамі вярнуцца яшчэ не раз.

**Вольга Быкоўская**

АДУКАЦЫЯ

# ВНАЧАЛЕ БУДЕМ УЧЕБНИКИ ПЕРЕПИСЫВАТЬ…

**Зацепило! Программу сократить, учебники — новые, уроки — с 9 утра, — требовал Лукашенко с трибуны. И все потому, что Коле сложно учиться и по утрам он не высыпается.**

— Спрашиваю у своего (сына — С.), ну как на первом уроке? Отвечает: «Ну, папа, ничего. Все спят и я там прикорну». Ну, слушай, ты же сын президента, нельзя так. Говорит, спать хочу, — рассказывал парламентариям и народу Лукашенко и возмущался:

— Безобразие в школе!

Конечно, любой другой отец в этой ситуации просто положил бы своего сына пораньше спать. Но зачем? Президенту же легче перенести уроки для детей всей страны на час позже.

— И не смотреть, что родителям сложно в школу отправить ребенка, потому что они раньше идут на работу, — инструктировал Лукашенко.

И правда, чего на это смотреть, когда Коля не высыпается? Пусть уж 6-летний Ваня или 7-летняя Даша сами как-нибудь завтраками себя кормят и до школы доводят. Главное, что Коля теперь будет бодр и весел. Его же есть кому накормить и отвести!

Ну и программы, соответственно, надо подкорректировать. У нас ведь как? Учится Коля в 5-м классе — будем для 5 класса учебники переписывать, идет в 6-й — для 6-го исправим, в 7-м сложно — что ж, надо подстроиться. Как до этого исправили в предыдущем, особо и не важно — Коле ж там уже не учиться.

С такими темпами мы сначала школьные программы перепишем, потом вузовские. А дальше что будем под Колю переписывать? Конституцию?

**Вероника Белова**

“ПАРАДАК”

# «В ДЕРЕВНЕ ОСТАЮТСЯ СЛАБЫЕ... »

**Экономист Леонид Заико — о планах главы государства навести порядок в деревне:".. пока в деревне убивают человека, там остается самый неэффективный человеческий капитал. И сколько туда сколько денег не вкладывай — будет труба."**

Накануне Александр Лукашенко заявил о том, что в Беларуси «будут восстанавливать небольшие деревни».

— Их надо приводить в порядок, — сказал он. — И если люди будут там жить, мы обязательно модернизируем, отремонтируем инфраструктуру для них. Мы будем делать это по всей стране.

Руководитель страны также добавил, что государство будет делать «все для того, чтобы эти деревеньки восстановить». В частности, планируется подвести к ним дороги, что предусмотрено госпрограммой по развитию сети местных дорог.

Руководитель Аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико сомневается в успехе инициативы.

— Они сначала создали проблемы, а теперь хотят их решать, — заметил он в экспресс-комментарии «Салідарнасці».

— Мне кажется, белорусская власть просто не понимает, что произошло в деревне. Она не имеет ни малейшего представления. Дело в том, что в Европе еще в средние века бедные крестьяне разорялись и уходили в города. А в сельской местности оставались самые сильные. В Беларуси и в России все было наоборот. С того времени, как началась коллективизация, самые сильные и умные начали уходить из деревень.

По мнению эксперта, главная проблема современной белорусской деревни в том, что там остался неконкурентный социальный материал:

— Если кто-то не верит, пускай посмотрит на личность Александра Григорьевича — он ведь из деревни ушел? Ушел. А остались там с большего самые слабые и неконкурентные. Пускай чиновники назовут имена своих детей, которые поехали в деревню работать. У кого из министров ребенок пошел работать в колхоз? Покажите мне этого человека.

По мнению Леонида Заико, в такой ситуации никакого смысла вкладывать деньги в деревню нет.

— Там надо заново создавать человеческий капитал. И никаких условий не надо — просто не трогайте людей. Отдайте им землю, у них найдутся и родственники, и друзья... Кто-то найдет наемных работников — все это люди могут сами сделать. Просто надо сделать то, что еще большевики обещали, но не исполнено до сих пор.

Вопреки распространенному мнению, частные фермеры могли бы успешно работать в Беларуси.

— Есть место не только крупным, но и мелким хозяйствам, которые будут иметь свою нишу. Можно выращивать ягоды, фрукты, картофель... А пока в деревне убивают человека, там остается самый неэффективный человеческий капитал. И сколько туда сколько денег не вкладывай — будет труба.

**Павел Рос**
**http://gazetaby.com**

ПОГЛЯД НА ГІСТОРЫЮ

# СТАЛІН — ПЕРАМОЖЦА ЦІ ЛУЗЭР?

**10 траўня, на другі дзень пасьля сьвяткаваньня Дня Перамогі, паглядзеў на тэлеканале «РТР-Беларусь» перадачу «Вечар з Уладзімірам Салаўёвым». Абмяркоўвалі пытаньне аб ролі Сталіна ў перамозе над фашысцкай Нямеччынай. Паводле сацыялягічных апытаньняў, каля паловы грамадзян РФ станоўча ацэньваюць ролю генэралісімуса ў Вялікай Айчыннай вайне. І ўдзельнікі перадачы Салаўёва ў большасьці падзялялі такі погляд. Галоўны аргумэнт такі: а як яшчэ можна ацэньваць ролю Вярхоўнага галоўнаначальніка войска, якое атрымала такую вялікую перамогу? Пытаньне пра цану перамогі пры гэтым неяк згубілася.**

Успомніўшы, што я паводле сваёй першай прафэсіі гісторык, вырашыў нагадаць некалькі тэзаў да ролі Сталіна ў вайне. Найперш два факты. У Першай сусьветнай вайне немцы змаглі акупаваць толькі невялікую частку Расейскай імпэрыі (да бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 году). Лінія фронту праходзіла прыкладна пасярэдзіне сучаснай Беларусі. А ў Другой сусьветнай вайне, у час кіраваньня «вялікага палкаводца» Сталіна, немцы дайшлі да Масквы і Сталінграда.

Ніколі раней у гісторыі войнаў, якія вяла Расея, у яе не было так шмат палонных (каля 5 млн) і калябарантаў, якія ваявалі на баку ворага (1,5 млн).

Але вернемся да Сталіна. Напярэдадні вайны ім былі зробленыя такія сур'ёзныя памылкі (іх можна назваць дзяржаўнымі злачынствамі), што яны сталі велізарнай трагедыяй для народаў СССР.

Найперш прыгадаем, што напярэдадні вайны была вынішчана большасьць каманднага корпусу Чырвонай Арміі, а таксама дзяржапарату, гаспадарчай, навуковай эліты. У шэрагу выпадкаў лейтэнанты пачалі камандаваць палкамі.

Безумоўна, тут не абысьціся без ацэнкі пакту Молатава — Рыбэнтропа. Я ня згодзен з распаўсюджанай думкай, што Сталін і Гітлер аднолькава вінаватыя ў разьвязваньні Другой сусьветнай вайны. Віна Сталіна ёсьць, як, дарэчы і кіраўнікоў Францыі і Англіі (Мюнхенская дамова). Але галоўная віна ўсё ж ляжыць на Гітлеру, які хацеў вайны, усімі сіламі дамагаўся яе, бо на гэтым грунтавалася ўся ягоная палітыка і ідэалёгія.

Тым ня менш, на мой погляд, пакт Молатава — Рыбэнтропа зьяўляецца стратэгічнай памылкай Сталіна. Найперш, адзначым, што гэта не дамова аб ненападзе, як дасюль падаецца ў нашых падручніках гісторыі. Бо былі ж яшчэ сакрэтныя пратаколы аб падзеле Ўсходняй Эўропы, а таксама дамова пра дружбу і мяжу ад 28 верасьня 1939 году. Фактычна гэта былі дамовы аб саюзе. У рэальнасьці ў 1939-1940 гг. СССР аказваў Нямеччыне эканамічную і дыпляматычную падтрымку агрэсіі ў Эўропе. Такім чынам, Сталін дапамог Гілеру захапіць краіны, якія маглі стаць (а ў канцы вайны насамрэч і сталі) саюзьнікамі Савецкага Саюзу ў вайне. У выніку 22 чэрвеня 1941 г. СССР апынуўся сам-насам зь Нямеччынай. А потым абураўся, чаму так доўга не адкрываецца другі фронт.

Гэтая памылка дасюль шмат кім трактуецца ў Расеі як мудры крок і вялізны дыпляматычны посьпех СССР. А ў чым мудрасьць?

Маўляў, гэтым пактам Сталін разбурыў магчымасьць стварэньня «адзінага імпэрыялістычнага фронту» супраць СССР. Але саюз Францыі, Англіі (магчыма, ЗША) і гітлераўскай Нямеччыны быў немагчымы ў прынцыпе. Паміж імі былі нятольківнепрымірымыяггеапалітычныя, але і мэнтальныя, псыхалягічныя (памяць аб Першай сусьветнай вайне і інш.) супярэчнасьці. Аднак савецкае кіраўніцтва кіравалася дагматычным клясавым падыходам, паводле якога капіталістычныя краіны могуць лёгка аб'яднацца дзеля зьнішчэньня такой ненавіснай ім пралетарскай дзяржавы.

Ці вось яшчэ аргумэнт. Маўляў, пакт Молатава — Рыбэнтропа адцягнуў пачатак вайны на два гады, дазволіўшы СССР лепш падрыхтавацца да вайны.

Але, па-першае, у 1939 годзе вайна з СССР у пляны Гітлера не ўваходзіла. Бо суадносіны сілаў у той момант былі на карысьць Савецкага Саюзу. А вось гэтыя два гады Гітлер скарыстаў лепш, чым Сталін, і ў 1941 годзе Нямеччына была больш гатовая да вайны, чым СССР.

А тое, што адбывалася апошнімі месяцамі перад вайной, не паддаецца ніякай нармальнай лёгіцы. Тое, што Гітлер зьбіраецца напасьці на СССР, канцэнтруе каля савецкай мяжы вялізную колькасьць войскаў, ведала, здаецца, уся Эўропа. Бо як гэта можна было схаваць? Пра гэта ведалі ўсе камандзіры і вайскоўцы тых частак, якія стаялі каля мяжы. Бо кожны дзень пра гэта сьведчылі ўсё новыя факты.

І толькі адзін чалавек у гэтую пагрозу катэгарычна ня верыў, адрынаў усе факты, забараняў камандзірам пад страхам рэпрэсій прымаць захады ўмацаваньня баяздольнасьці сваіх падразьдзяленьняў, каб «не справакаваць немцаў»! На няшчасьце, гэты чалавек быў неабмежаваным дыктатарам. У выніку войскі сустрэлі вайну дрэнна падрыхтаванымі, танкі і самалёты апынуліся бяз паліва і г.д.

Толькі адна з такіх памылак любому іншаму гістарычнаму дзеячу каштавала б таго, каб яго імя назаўсёды зганьбіць. Дарэчы, у Францыі і Вялікай Брытаніі палітыкі, што падпісалі Мюнхэнскую дамову, ацэньваюцца нэгатыўна. Але Расея — краіна зь гісторыяй, якая не прагназуецца.

**Валер Карбалевіч**
***“Радыё Свабода”***

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.05.2017 у 16.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.